Прачытай сам і перадай другому.

На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...
Якуб КОЛАС

№ 89 (4547)

10 лістапада 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



9 772071 964000 20089

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

АКАЯННЫЯ ДНІ



**Мабыць, гестапаўцы так не здзекаваліся з людзей, як сённяшнія беларускія ўлады. Скажыце, ну чаму ўзброеным сілавікам у балаклавах трэба гадзінамі трымаць патрыётаў-беларусаў, якія няхай нават дапусцілі нейкае адміністрацыйнае правапарушэнне, у сцяны міліцэйскага пастарунка з паднятымі ўгору рукамі?**

САЛІДАРНАСЦЬ

## Дзякуй Вам, шаноўныя прыхільнікі «Народнай Волі»!

Менавіта ваша падтрымка – і маральная, і фінансавая – дазваляе нам амаль тры месяцы выдаваць газету ў надзвычай складанай сітуацыі. Які сорам для дзяржавы, для ўлад, што «Народная Воля» цяпер вымушана друкавацца аж пад Масквой!

Разам мы, безумоўна, выстаім, дачакаемся таго дня, калі будзе знята блакада. Але пакуль разлічваем на вашу дапамогу. Нагадваем нашы банкаўскія рэквізіты для пералічэння грошай на падтрымку «Народнай Волі»:

**УНП 100961759**
**р/с BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933**
**в «Приорбанке» ОАО, ЦБУ 113**
**BIC: PJCBBY2X**
**Адрас банка: 220030 г.Мінск, вул.Камсамольская, 13.**

І яшчэ. Усіх вас, шаноўныя чытачы, хвалюе такое пытанне: паколькі «Белпошта» не ўнесла «Народную Волю» ў падпісныя каталогі на першую палову 2021 года, то як быць у такім разе? Рэдакцыя вырашыла пайсці на эксклюзіўны варыянт: заходзьце, калі ласка, на сайт **belpressa.by**, запаўняйце бланк і зрабіце аплату праз сістэму **Webpay** банкаўскай карткай ці праз сістэму «Расчет» (АРІП). У апошнім выпадку неабходна выбраць пункт **«Система «Расчет» (ЕРИП)» – «СМИ» – «Н» – «Народная Воля» – «Подписка».** Для аплаты трэба ўвесці нумар рахунка, атрыманага на сайце **belpressa.by**. Зрабіце плацеж з пазнакай **«Падпіска»**.

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

ДЗІКУНСТВА

## Бел-чырвона-белы сцяг — не растаптаць!

На адным з мірных шэсцяў давялося пабачыць, як АМАП здзекаваўся з людзей не толькі фізічна, але і псіхалагічна. Сілавікі ў масках прымушалі затрыманых наступаць на бел-чырвона-белы сцяг, разасланы на ўваходзе ў амапаўскі бусік. Тых, хто стараўся перакрочыць праз сцяг, амапаўцы збівалі дубінкамі. І самі падавалі прыклад – тапталіся па сцягу сваімі чорнымі чобатамі і здзекліва рагаталі. І гэта пры тым, што бел-чырвона-белы сцяг быў дзяржаўным сімвалам Беларусі ў 1991–1995 гадах, пад ім грамадзянін Лукашэнка прымаў прэзідэнцкую прысягу.

Мала таго, што па БТ абзываюць нацыянальны сцяг "фашысцкім", дык яшчэ трэба і патаптацца па ім... Гэтым сваім учынкам АМАП яшчэ раз даказаў сваю пустагаловасць, паказаў, што беларуская дзяржава для яго супрацоўнікаў – пусты гук. Бо таптаць і зневажаць былы сімвал дзяржавы, якой ты нібыта служыш, могуць толькі нягоднікі і людзі без "праваых тармазоў". З гэткай жа ахвотай, калі паступіць каманда, яны будуць таптаць і чырвона-зялёны...

Але светламу, авеянаму хрысціянскай легендай бел-чырвона-беламу сцягу не страшныя зашнураваныя капыты звар'яцелых ад беспакаранасці служак. Ім не дадзена яго растаптаць. Да яго не прыстане гразь прапагандысцкай брахні. Я перакананы: наш Сцяг яшчэ ўзнімецца на дзяржаўныя флагштокі!

**Станіслаў ЖУКОЎСКІ, мінчанін.**

БЕЗ РЭТУШЫ

Валерый КАРБАЛЕВІЧ, палітолаг

## Пяць прычын, чаму ўлада зрабіла стаўку на гвалт

*У нядзелю ўлады, відавочна, вырашылі даць пратэстнаму руху рашучы адпор. Чаму ўлады не сталі чакаць, калі пратэст сам сабой пастуова пойдзе на спад з натуральных прычын, а вырашылі паскорыць працэс?*

8 лістапада ўлады мабілізавалі ўсе сілы, уключаючы, паводле некаторых ацэнак, і вайскоўцаў. Прывезлі ў Мінск міліцыю з рэгіёнаў. Ачапілі ўсю сталіцу, перавёўшы яе фактычна на асаднае становішча. Хапалі і білі даволі жорстка, як у найгоршыя часы.

Такога хапуну Мінск даўно не бачыў. Да позняй ночы мікрааўтобусы з амапаўцамі палявалі на ўдзельнікаў акцыі. Затрымалі больш за тысячу чалавек. Нельга выключаць, што ўсіх іх паспрабуюць пакараць паводле Крымінальнага кодэкса.

У пэўнай ступені тактыка сілавікоў дала плён. Пратэстоўцаў удалося падзяліць, разбіць на часткі, не даць ім сабрацца разам. І ўжо разганяць іх асобнымі групамі.

Чаму ўлады не сталі чакаць, калі пратэст сам сабой паступова пойдзе на спад з натуральных прычын, а вырашылі паскорыць працэс? На тое некалькі прычын.

• Найперш, нецярплівасць. Глядзець, як кожную нядзелю сталіца ператвараецца ў свята непадпарадкаванага народа, – гэта для некаторых персанажаў невыносна.

• Па-другое, улады адчулі псіхалагічную стомленасць людзей, якія выходзяць на пратэсты, і вырашылі выкарыстаць зручны момант.

• Па-трэцяе, пратэст у рэгіёнах амаль сціх, мінімізаваўся. Таму мясцовую міліцыю можна спакойна перакінуць у Мінск.

• Па-чацвёртае, трохмесячнае супрацьстаянне – гэта барацьба на змор, на знясіленне праціўніка. Хто першы не вытрымае напругі. Можна думаць, што сілы супрацоўнікаў МУС на зыходзе. Таму трэба паспяшацца, каб адным махам, адным ударам пакончыць з пратэстамі і нарэшце спакойна выдыхнуць.

• Па-пятае, можна меркаваць, што Расія цісне. Былі розныя гіпотэзы расійскіх экспертаў, што, маўляў, Пуцін даў Лукашэнку абмежаваны час, каб навесці парадак. А апошні не ўкладваецца ў графік. Таму цяпер Лукашэнка і падганяе падзеі.

Іншая справа – ці правільны разлік улад? Ці не прынялі яны часовы спад пратэсту за яго канец? У гэтым ёсць вялікія сумневы.

МИРОВАЯ ПОЛИТИКА

## Джозеф Байден: кто он?

Один из самых опытных и авторитетных демократов Джозеф Байден, вероятнее всего, станет 46-м президентом США. Что о нем известно?

Байден станет самым возрастным президентом в истории США. На момент инаугурации, которая пройдет 20 января следующего года, ему исполнится 78 лет. До этого самым возрастным президентом был действующий глава государства Дональд Трамп.

Байден родился 20 ноября 1942 года в штате Пенсильвания, большую часть жизни прожил в Делавэре. У Байдена есть диплом юриста, он работал адвокатом, имел собственную юридическую фирму.

В 30 лет Байден стал сенатором. С 1973-го до 2009 года он переизбирался в Конгресс США от штата Делавэр, возглавлял судебный комитет в сенате, трижды становился председателем сенатского комитета по международным отношениям.

Джозеф Байден дважды до выборов этого года выдвигал свою кандидатуру на пост президента США: в 1987 году он снялся с гонки из-за обвинений в плагиате при подготовке своих речей, а в 2008-м ему не хватило поддержки избирателей на начальном этапе.

Байден голосовал против войны в Персидском заливе (1990–1991), поддержал вторжение США в Ирак в 2003 году, хотя позже назвал это решение ошибкой, был противником войны в Ливии в 2011-м, выступал за политику перезагрузки в отношениях с Россией при Обаме.

В 2009 году Байден занял пост вице-президента США. Он работал в тандеме с 44-м президентом Америки Бараком Обамой два срока – до 2016 года. Будучи вице-президентом США, Байден курировал американскую политику в отношении Украины. С его фамилией связан скандал.

Нардеп Украины Андрей Деркач в мае опубликовал аудиофайлы, которые, по его мнению, могут свидетельствовать о влиянии Байдена на экс-президента Украины Петра Порошенко: записи разговоров о деятельности в Украине газовой компании Burisma Holdings, членом совета директоров которой был сын Байдена Хантер. Якобы Байден предложил 1 миллиард долларов помощи в обмен на сохранение схем работы компании и увольнение генпрокурора Виктора Шокина, который в то время расследовал деятельность Burisma и вышел на вице-президента США. В штабе Байдена тогда назвали это попыткой ему навредить.

В 2017 году он стал преподавать международную дипломатию в Университете Пенсильвании.

В 1988 году Байден в критическом состоянии попал в больницу, где ему сделали срочную операцию. У политика обнаружили аневризму двух сосудов головного мозга. Восстановление заняло около семи месяцев, после чего он снова вернулся к работе в Сенате. Байден не употребляет алкоголь из-за проблем с этим в семье.

С 1977 года женат на Джилл Байден, американской учительнице. У пары есть дочь. У Байдена двое детей от двух браков – дочь Эшли и сын Хантер. Первая жена политика погибла вместе с маленькой дочкой в автокатастрофе, старший сын Бо умер в 2015 году от опухоли головного мозга.

### За что выступает Байден

• Вывод войск из Афганистана, переговоры с талибами.

• Налаживание отношений с членами НАТО и европейскими партнерами, возвращение США в состав ВОЗ;

• Возвращение США в иранскую сделку.

• Восстановление рабочих мест в США и повышение минимальной зарплаты в час.

• Возобновление действия системы Obamacare (программы обязательного медицинского страхования, принятой 44-м президентом США).

• Ведение гуманной иммиграционной политики: облегчение получения гражданства для миллионов нелегальных иммигрантов.

• Сохранение давления на Россию. Байден грозит мерами за вмешательство в выборы, высказывается за возвращение к «ракетному договору».

### Он — о Беларуси

Джозеф БАЙДЕН:

– Ни один лидер, мучающий свой собственный народ, не может претендовать на легитимность. Вот почему международное сообщество должно значительно усилить санкции в отношении прислужников Лукашенко и заморозить офшорные счета, на которых они хранят украденные богатства.

АКЦЫЯ

## Пенсіянеры аб'ядналіся з медыкамі

*Учора каля тысячы чалавек пенсіённага ўзросту і медыкаў правялі ў сталіцы марш .*

Яны прайшлі ад Чырвонага касцёла да плошчы Якуба Коласа.

*"Рукі прэч ад мірных грамадзян! Прыбаўкай да пенсіі нас не купіш!"* – гаварылася ў анонсе маршу.

Падчас акцыі абышлося без затрыманняў.

**Віктар ШПАК.**



svaboda.org (RFE/RL)

СКАЗАНА!



## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

## – Некаторыя ад нас патрабуюць новыя выбары. Гарантую вам новыя выбары – тады, калі вы прымеце рашэнне. Гарантую!

(Падчас прамовы на адкрыцці новых станцый сталічнага метро 6 лістапада.)

*Здаецца, лёд крануўся. Аляксандр Лукашэнка нарэшце зразумеў: Беларусі патрэбны новыя, па-сапраўднаму сумленныя, дэмакратычныя прэзідэнцкія выбары. Учора журналісты «Народнай Волі» звязаліся па тэлефоне з шэрагам вядомых людзей і задалі ім адно і тое ж пытанне:*

# Калі, на Ваш погляд, павінна быць прынята рашэнне аб правядзенні новых прэзідэнцкіх выбараў?

БЛІЦ

### Анатоль БОКУН, сустаршыня страйкавага камітэта ААТ «Беларуськалій»:



– Выбары трэба праводзіць тэрмінова, але павінна быць на 100 працэнтаў гарантыя, што яны будуць празрыстыя. Акрамя таго, у краіну павінна вярнуцца жыццё без гвалту над грамадзянамі, неабходна вызваліць палітвязняў і спыніць крымінальныя справы, якія завялі па палітычных матывах.

### Міхаіл ЧЫГІР, экс-прэм'ер-міністр Беларусі:



– Чым раней будуць праведзены новыя выбары, тым лепш. Усе ж бачаць, у якой сітуацыі сёння знаходзіцца і краіна, і грамадства. Незразумела, ці то ў нас у Беларусі мір, ці то вайна.

Мяркую, на дату новых выбараў шмат у чым паўплывае знешні фактар – пазіцыя той жа Расіі. А самі ўлады, напэўна, спяшацца з новымі выбарамі не будуць.

### Радзім ГАРЭЦКІ, акадэмік:



– Мне падаецца, што мы крыху не тое пытанне абмяркоўваем. Бо важна не дата, калі прымуць рашэнне аб правядзенні новых прэзідэнцкіх выбараў, а хто іх будзе арганізоўваць.

Калі і новыя выбары будзе праводзіць гэты самы Цэнтрвыбаркам на чале з Ярмошынай пры той выбарчай сістэме, калі галасы фактычна ніхто не лічыць, то вынік будзе такі ж, што і зараз.

Вось пра што трэба найперш гаварыць! Новыя выбары можна праводзіць толькі тады, калі будзе абсалютны празрысты падлік галасоў, які будзе кантралявацца грамадствам.

### Анатоль ПАЎЛАЎ, былы прарэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта:



– У любы час можна правесці выбары, але гэта павінны быць насамрэч выбары, а не чарговы падман людзей. Супраць чаго людзі тры месяцы пратэстуюць? Менавіта супраць падману. Першнаперш ва ўчастковыя камісіі павінны ўваходзіць прадстаўнікі апазіцыі. Па-другое, празрысты падлік галасоў. Калі гэтага не будзе, то пачуем старую песню.

### Аляксей ДУДАРАЎ, драматург, лаўрэат Дзяржпрэміі СССР:



– Не ведаю, калі праводзіць новыя выбары. Хто я такі, каб ведаць? Нават калі б мне сказалі: «Даём табе права, вырашай!» – то і тады адмовіўся б. Таму што той, хто ведае ўсё цвёрда і дакладна, самі ведаеце, куды масціў дарогу сваімі «ведамі».

### Алег ГАЙДУКЕВІЧ, дэпутат Палаты прадстаўнікоў:



– Рашэнне аб правядзенні новых прэзідэнцкіх выбараў павінна быць прынята пасля таго, як будзе новая Канстытуцыя. Каб не зламаць краіну.

Напрыклад, у Польшчы, хто б ні стаў прэзідэнтам, ён не зможа кардынальна змяніць курс краіны. І нам патрэбна, каб у Беларусі сталі мацнейшымі парламент і ўрад. Але для гэтага неабходна змяніць Асноўны закон. Вось той фармат, які мяне задавальняе. Але самае галоўнае – змена выбарчага заканадаўства і замена аднамандатнай выбарчай сістэмы на прапарцыянальна-мажарытарную.

Але спяшацца са зменай Канстытуцыі не варта. Нехта думае, што заўтра пройдуць новыя прэзідэнцкія выбары – і адразу жыць стане лепш. Так не будзе, бо мы бачым тыя эканамічныя і геапалітычныя выклікі, якія стаяць сёння перад краінай. Таму трэба ў спакойнай абстаноўцы змяняць Канстытуцыю і праводзіць выбары.

### Кастусь ЦВІРКА, паэт:



– Толькі пасля таго, як пакіне сваю пасаду Лукашэнка. У адваротным выпадку празрыстых, сапраўды дэмакратычных выбараў мы зноў не ўбачым. Даверу да яго ў людзей ужо ніколі не будзе.

### Пётр САДОЎСКІ, былы дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання, экс-пасол Рэспублікі Беларусь у Германіі:



– Перад тым як праводзіць новыя выбары, рэжым павінен выканаць тры ўмовы: сыход у адстаўку Лукашэнкі, спыненне гвалту і беззаконня ў краіне і вызваленне ўсіх палітвязняў. Народ ужо тры месяцы выходзіць на вуліцу з патрабаваннем выканаць гэтыя пункты.

Як можна казаць пра нейкія новыя выбары, калі ў нас сёння за кратамі каля 120 палітзняволеных? Калі за адзін дзень затрымліваюць каля тысячы і болей чалавек. Калі людзей збівалі і забівалі, а ў дачыненні да тых, хто гэта рабіў, не ўзбуджана ніводнай крымінальнай справы?!

### Міхаіл КАЗІНЕЦ, дырыжор, народны артыст Беларусі:



– Я адмаўляюся каментаваць, прабачце. Я нават тэлевізар не гляджу.

### Андрэй РАДАМАН, гісторык, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі:



– Новыя выбары павінны праводзіцца, калі будуць створаны ўмовы для кантролю за выбарамі і калі будзе перапісаны «Закон аб выбарах». Падрыхтоўка да іх павінна праводзіцца пры ўдзеле шырокай грамадскасці і пад наглядам АБСЕ. А пры дзейным заканадаўстве гэта немагчыма, улада жорстка прыбярэ ўсіх канкурэнтаў, нават зарэгістраваць апанентаў улады на гэты раз не ўдасца. Другі раз яны такой памылкі не дапусцяць. Таму трэба пачынаць са змены ў заканадаўстве. Асабіста мне імпануе Канстытуцыя 1994 года, у якой кіруючая роля адведзена парламенту краіны.

### Раман ПАДАЛЯКА, былы артыст Купалаўскага тэатра:



– Па-першае, трэба, каб спыніўся гвалт на вуліцах. Трэба выпусціць усіх зняволеных, завесці крымінальныя справы на тых, хто гэта дапусціў. Увогуле гэта ўлада павінна сысці. А ўжо потым можна казаць пра выбары.

### Васіль ПАЛЯКОЎ, грамадска-палітычны актывіст, Гомель:



– Новыя выбары трэба прызначаць неадкладна, каб вырашыць праблему легітымнасці прэзідэнцкай улады, а саму кампанію правесці ў тэрміны, прадугледжаныя Канстытуцыяй. Лічу, што тэрмін паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі скончыўся. Так званыя "прэзідэнцкія выбары", праведзеныя ў жніўні, не прызнаны беларускім грамадствам і дэмакратычнымі краінамі. Наша назіранне за жнівеньскімі так званымі выбарамі паказала, што працэдура была цалкам закрытая не толькі падчас падліку галасоў, але і на працягу ўсяго працэсу. Назіральнікаў на большасць участкаў не дапусцілі, а там, дзе атрымалася весці паралельны падлік тых, хто прагаласаваў, мы сутыкнуліся з тым, што яўка датэрміновага галасавання была завышана ў дватры разы.

### Алена ДАВЫДАВА, медык, Гомель:



– Каб у краіне ўсталяваўся спакой, трэба на працягу бліжэйшага тыдня выпусціць з турмаў усіх палітзняволеных, каб даць ім магчымасць удзельнічаць у новых выбарах нароўні з іншымі кандыдатамі. І толькі пасля гэтага абвяшчаць новыя выбары. Пераканана: яны павінны прайсці без Лукашэнкі і яго "світы".

На парадку дня стаіць і пытанне фарміравання трох незалежных галін улады, каб не адбылося замены аднаго дыктатара іншым. Гэта, на мой погляд, можна зрабіць і пры цяперашняй Канстытуцыі і сістэме кіравання.

### Вольга АНДРЭЕВА, псіхолаг:



– Чым хутчэй, тым лепш. І ніякіх кампрамісаў з дзеючай уладай! Верыць ёй ні ў чым нельга.

### Анатоль СІДАРЭВІЧ, гісторык:



– Новыя выбары павінны прайсці як найпазней у снежні. Так паводле Канстытуцыі. Апошнія былі ў 2015 годзе, значыць, наступныя – у 2020-м. Пры ўмове, што мадам Ярмошына не будзе ўзначальваць ЦВК, а ва ўчастковыя камісіі нарэшце будуць уключаны людзі, якія ўмеюць лічыць, – прадстаўнікі апазіцыйных партый і грамадскіх рухаў. І, нарэшце, калі назіральнікі змогуць рэальна назіраць за падлікам галасоў, а не бачыць толькі азадкі чальцоў участковых камісій. Каб назіральнік мог рэальна, як у 1994 годзе, бачыць кожны бюлетэнь. Тэрмін паўнамоцтваў Лукашэнкі скончыўся. Ён цяпер в.а. прэзідэнта.

### Сяргей ДУБАВЕЦ, пісьменнік:



– Выбары мусяць прайсці да Новага года. Хоць асабіста я адчуваю, што чым раней, тым лепей для народа і краіны. Праўда, рэалістычна нішто не абяцае нам новых выбараў. Страшна не хочацца пагружацца ў гэтую доўгую ноч, і мы можам толькі марыць, што і ў гвалту ёсць нейкая мяжа.

### Аляксей МАРАЧКІН, мастак:



– Няма веры такім выбарам, якія будуць адбывацца па ініцыятыве дзейнага начальніка краіны. Спачатку Лукашэнка павінен падаць у адстаўку, і толькі тады прымацца рашэнне пра новыя выбары. Ну і адмяніць дзеянне нелегітымнай Канстытуцыі. Такім чынам, тры пункты: першае – адстаўка, другое – вяртанне Канстытуцыі 1994 года, трэцяе – выбары. А ўвогуле я за парламенцкую рэспубліку.

### Алесь СМАЛЯНЧУК, доктар гістарычных навук, Гродна:



– Я лічу, што такое рашэнне ўжо даўно павінна быць прынята, і не чалавекам, які называе сябе сёння прэзідэнтам Беларусі. Усё, што ён гаворыць зараз, – гэта хлусня, у якую немагчыма верыць. Спадзяюся, што рашэнне будзе прынята або напрыканцы гэтага года, або на пачатку наступнага.

### Алесь КРАЎЦЭВІЧ, доктар гістарычных навук, Гродна:



– Рашэнне павінна быць прынята тэрмінова з умовамі адстаўкі Лукашэнкі і вызвалення палітвязняў.

### Алег ТРУСАЎ, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання:



– Новыя выбары прэзідэнта павінны быць аб'яўлены як мага хутчэй. Асноўная маса людзей выходзіць на вуліцы і плошчы нашых гарадоў з патрабаваннем новых выбараў. Каб ліквідаваць гэты крызіс, іх трэба як мага хутчэй правесці.

**Апытвалі Анатоль ГАТОЎЧЫЦ, Антон ЗАГОРСКІ, Міхал КАРНЕВІЧ, Алена МАЛОЧКА, Алесь СІВЫ.**

ЖИЗНЬ КАК ОНА ЕСТЬ

# Виктору Бабарико – 57 лет

## *Этот день он встретил в СИЗО КГБ*

Вчера экс-главе «Белгазпромбанка» и претенденту в кандидаты на пост президента **Виктору Бабарико** исполнилось 57 лет. Этот день он провел в СИЗО КГБ.

Виктор Бабарико родился в 1963 году. Вырос экс-банкир в Заводском районе Минска. Получил образование по специальности «теоретическая механика» в БГУ, потом изучал экономику в Академии управления при Кабинете министров Беларуси, а в 37 лет окончил магистратуру БГЭУ.

Виктор Бабарико известен в первую очередь как банкир и участник президентской гонки 2020 года. В банковскую сферу он пришел в 1995 году, в «Белгазпромбанке» – с 2000 года. В мае 2020 вышел из состава правления «Белгазпромбанка» и заявил о намерении баллотироваться на пост президента Беларуси.

Бабарико также известен как филантроп, коллекционер и меценат. С его фамилией ассоциируется деятельность благотворительного фонда «Шанс», одним из учредителей которого стал банкир. Он инициировал создание культурного арт-пространства «ОК16». Благодаря его усилиям в Беларусь вернулись больше сотни произведений искусства белорусских авторов. Загоревшись этой идеей, Виктор Бабарико на протяжении почти десяти лет методично и уверенно создавал художественную коллекцию «Белгазпромбанка», в которую вошли картины Шагала и Сутина, а также других известных уроженцев Беларуси. В 2017 году открылась доступная для посетителей галерея проекта «Арт-Беларусь». В июне 2020 года полторы сотни картин корпоративной коллекции банка были приобщены к громкому уголовному делу и скрыты от глаз посетителей галереи.

11 июня, спустя месяц после того, как Бабарико покинул состав правления «Белгазпромбанка», туда пришел с обыском департамент финансовых расследований КГК. В тот же день стало известно о возбуждении уголовного дела по ч.2 ст.243 «Уклонение от уплаты налогов и сборов в особо крупном размере» и по ч.2 ст.235 «Легализация средств, полученных преступным путем, в особо крупном размере». Через неделю был задержан сам Бабарико и его сын Эдуард. Спустя два дня после задержания новоиспеченному политику было предъявлено обвинение по уголовному делу. Сначала звучали обвинения в легализации средств, полученных преступным путем, уклонении от уплаты налогов и даче взятки, позже последний пункт был переквалифицирован в получение взятки.

С 18 июня Виктор Бабарико находится в СИЗО КГБ, срок пребывания под стражей экс-банкиру продлен до 18 декабря.

ФАКТ

*За последнее время **Светлана Тихановская** провела встречи с канцлерами Германии **Ангелой Меркель** и Австрии **Себастьяном Курцем**, президентом Франции **Эммануэлем Макроном**, премьер-министром Польши **Матеушем Моравецким**. Среди ее собеседников побывали почти все министры иностранных дел Европейского Союза, а также глава МИД Канады.*

...И КОММЕНТАРИЙ

# Встречи на высшем уровне



Ситуация, которую не мог предвидеть никто.

Что это все значит для Беларуси? Ведь сама госпожа Тихановская упорно избегает именовать себя президентом страны, предпочитая не предусмотренный законодательством статус «национального лидера». Но встреч на высшем уровне с западными лидерами и министрами у нее больше, чем за последние десять лет у Александра Лукашенко.

И не скажешь при этом, что один советник по международным делам – сын известного белорусского политика Франак Вечерко – настолько успешно работает, что всему нашему Министерству иностранных дел за ним не угнаться. Может быть, дело не в работе дипломатов, а в отношении к происходящему в Беларуси?

Вероятно, да. Напомним, что практически все западные государства выказали свое негативное отношение к фальсификациям результатов президентских выборов 9 августа. И пусть даже сегодня невозможно доказать, что Тихановская их выиграла с тем разгромным счетом, о котором говорят и пишут, но западные политики и государственные деятели уверены: Лукашенко их проиграл. Он – прошлое Беларуси, потому-то против его попытки уцепиться за власть и происходят уже более девяноста дней многотысячные протесты. А Тихановская все более ассоциируется с будущим.

С ней и говорят не как с действующим главой государства, а как с полномочным представителем белорусского будущего. При этом западные собеседники, насколько можно судить, задают Светлане Георгиевне вопросы совсем не о судьбе белорусско-российских интеграционных проектов (напомним, что наша государственная пропаганда упорно навязывает гражданам убеждение, что оппозиция после прихода к власти только и будет делать, что разрушать). Ее спрашивают о видении внутреннего устройства нашей страны. Какой видится ей политическая система Беларуси? Как будет развиваться экономика? Какой социальный контракт готова предложить нынешняя оппозиция белорусскому избирателю?

Можно было бы обвинить Запад в попытке таким образом вмешаться во внутренние белорусские дела и в двойных стандартах. Но совсем недавно тот же канцлер Австрии Себастьян Курц очень тепло принимал Александра Лукашенко – до того, как Европейский Союз в лице глав внешнеполитических ведомств коллегиально усомнился в его легитимности. И с премьер-министром Венгрии Виктором Орбаном Лукашенко легко нашел взаимопонимание; и германские фонды, дав уговорить себя посланцам Владимира Макея, отказали в поддержке большинства оппозиционных проектов; и, наконец, правящая польская элита готова была закрыть глаза почти на все – ради сохранения белорусского суверенитета. Но, оказалось, почти на все – это далеко не на все. 9 августа оказалось той гранью, перейдя которую Лукашенко оказался для Запада неприемлемым партнером.

Что же будет теперь?

Светлана Тихановская заявляет, что лично она на власть не претендует и что ее задача – добиться честных демократических выборов. Такой подход вполне устраивает ее западных собеседников. Они обсуждают не ее личные политические перспективы в Беларуси, а будущее Беларуси. Речь идет о «плане Маршалла для Беларуси» – о серьезной финансовой поддержке нашего народа на время будущих экономических реформ. Никому на Западе не нужна дестабилизация в Беларуси – напротив, нужна спокойная и стабильная Беларусь. Однако речь при этом идет вовсе не о стабильности, установленной дубинками, а о социальном мире, основывающемся действительно на согласии большинства. Того большинства, которое отказало в поддержке Александру Лукашенко. Но при этом с учетом интересов той части общества, которая все еще готова верить ему и идти за ним.

Западу нужна единая суверенная демократическая Беларусь. Об этом и говорится во время встреч госпожи Тихановской.

Хочется верить, что говорится именно об этом.

**Федор КОНСТАНТИНОВ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Смерть и статистика

В понедельник 2 ноября в Гродно похоронили моего ученика Сашу Смирнова. Двумя неделями ранее умер мой ученик Алик Рацупкин – из другого, более позднего, выпуска. Еще моложе.

Как родителям тяжело потерять взрослого ребенка, так бывший учитель испытывает боль и горечь, узнав о смерти своих учеников. Мы могли не видеться годами, но я помню их ответы на уроках, помню их сочинения. Изредка встречаясь – или на вечере встречи с выпускниками, или случайно, на улицах Гродно и Минска, – я узнавал в них, уже взрослых, семейных, тех подростков, которые выходили к доске, дерзили, отрабатывали не сданные в срок темы.

Саша Смирнов не был отличником. Он был вполне обычным веселым и шумным парнем, учившимся – по старой, пятибалльной, системе – на крепкую «четверку». У него был громкий голос и хорошая память, так что ему приходилось выступать на всех школьных конкурсах чтецов. Читал он в основном советскую классику: Маяковского, Светлова, Сельвинского – но знал и Некрасова, и Гумилева.

Теперь Саши нет.

В реанимацию он попал с ковидом. А вот в статистику не попадет. Потому что формально умер не от ковида: оторвался тромб.

Страшная вещь – статистика. Нас считают вроде бы и точно, но цифру можно повернуть по-разному. Советская статистика говорила о росте онкологических заболеваний в стране так, как если бы они никак не были связаны с аварией на Чернобыльской АЭС. Чернобыль был сам по себе, раковые опухоли – сами по себе.

Резкий рост смертей от инфарктов, как говорили мне специалисты, был зафиксирован после распада СССР и сопутствовавшей ему инфляции, обесценившей сбережения целых поколений. Но для статистики это тоже были не взаимосвязанные явления. Социологи и медики говорили что-то о стрессах, но статистика никак не отображала роль стрессов в росте кардиологических заболеваний. Сердце казалось слишком «романтическим» органом, что ли, а статистика на «романтику» – как и на политику – не реагирует. Не ее дело.

То же и в случае со смертями от коронавируса. Еще во время первой волны пандемии статистика говорила: вот, этот человек умер не от ковида, а от пневмонии, а тот – от обострения диабета, а вот тот, которого мы не знали, – просто от старости. И государственное телевидение снабжало всё соответствующими комментариями из уст высокопоставленных государственных «деятелей», которые оперировали статистическими данными, интерпретируя их, согласно собственным представлениям об истине.

Сейчас вроде бы статистика смертей от ковида изменилась. Но доверие к цифрам осталось прежним. Вернее, конечно, недоверие к цифрам. Потому что за прошедшее время всех нас так усердно уверяли, что вируса этого никто не видел (ни президенты, ни журналисты), что сейчас, когда его существование вроде бы и признали на государственном уровне, все равно остается ощущение, что – недоговаривают.

Георгию Жукову приписывали во время перестройки фразу: «Невозможно отправить солдата на верную смерть, когда ты помнишь цвет его глаз». Говоря современным языком, фейк. Цвет глаз солдата может помнить лейтенант. Ну, майор. Очень редко – командующий дивизией, если ему доводилось бывать в окопах. Но маршал их не помнит. Он помнит направление ударов, перемещение дивизий и корпусов. Солдаты остаются для него статистикой, даже если он очень хороший маршал.

Это, кстати, видно по литературе о Великой Отечественной войне. «Маршальская» проза (мемуары) – ставка Верховного Главнокомандующего, донесения с фронтов, общение с генералами и партийными деятелями высокого ранга (вспомним «Воспоминания и размышления» того же Жукова). Полковники и майоры, в основном политработники, писали другую прозу, образцом которой стали «Живые и мертвые» Константина Симонова. «Окопную» правду о войне передали лейтенанты – такие как Василь Быков, Вячеслав Кондратьев, Юрий Бондарев. Они цвет глаз солдат из своих окопов помнили хорошо.

Тема коронавируса и пандемии воспринимается в Беларуси сегодня скорее как попытка власти отвлечь внимание от политического кризиса. И лишь те, кого ковид задел непосредственно, у кого он отнял близких людей или кто сам перенес его, начинают понимать ценность отдельно взятой человеческой жизни. И после каждого такого стресса мы вспоминаем ту, первую, волну, когда общество собирало деньги не на помощь уволенным бастующим, а на покупку необходимого для больниц. Когда мы читали в сводках не о числе задержанных ОМОНом медицинских работников, а об именах врачей, осмеливающихся говорить правду о пандемии. Когда осуждали не губернатора Караника, при котором на «Азот» будут завозить штрейкбрехеров, а министра здравоохранения Караника, озвучивавшего статистику смертей от ковида, которой никто не верил.

Закончится год, и нам озвучат и другие цифры. Рост смертности от стрессов – инфарктов, инсультов. Число обратившихся в течение года в больницы в связи с избиением на улицах. Количество похищенных «людьми в штатском». Важно, чтобы за всеми этими цифрами стояли живые лица. Чтобы мы помнили о них, об этих людях. Могли рассказать о них друг другу. Как я сегодня вспоминаю умершего и, вероятно, не попавшего в статистику смертей от ковида ученика моего 10-го «Б» класса средней школы №20 города Гродно, 1988 года выпуска, Сашу Смирнова – высокого, сильного, доброго и веселого парня, так забавно жестикулировавшего, читая «Элегию» Некрасова. Ту самую: «Я лиру посвятил народу своему…»

РЭГІЁН

## Патрабаванні насіць маскі застаюцца на паперы

*У Лідзе Гродзенскай вобласці з 5 лістапада было ўведзена абавязковае патрабаванне надзяваць маскі пры ўваходзе ў крамы.*

Прэс-служба райвыканкама паведамляла, што на лідскі шпіталь «ідзе каласальная нагрузка» – ад каранавіруснай пнеўманіі там цяпер лечаць 350 чалавек.

Адзін з нашых чытачоў паведаміў рэдакцыі, што патрабаванне выконваецца далёка не ўсімі грамадзянамі і кантроль за гэтым практычна адсутнічае.

*"Ёсць толькі некаторыя крамы, дзе на ўваходзе ахоўнік не пранускае без маскі. У некаторых крамах прадаўцы адмаўляюцца абслугоўваць людзей без масак,* – распавядае чытач. *– Але вельмі шмат у якіх крамах наогул ніхто ні ў каго не пытаецца пра маскі".*

Паводле інфармацыі нашага чытача, у грамадскім транспарце Ліды таксама шмат людзей без масак, пераважна маладых, такая ж сітуацыя ў банках і нават аптэках.

Афіцыйных дадзеных пра колькасць хворых на COVID-19 у асобных рэгіёнах і гарадах не даюць з вясны. Паведамляюць толькі агульную лічбу па краіне.

Паводле дадзеных на 8 лістапада, у Беларусі зарэгістравана 996 новых выпадкаў заражэння каранавірусам. Агульная колькасць захварэлых з пачатку пандэміі перавысіла 106 тысяч чалавек.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ПОГЛЯД

## Мотапрабегі нагадваюць дрэнны спектакль

Мне здаецца, лукашэнкаўскія прапагандысты арганізоўваюць так званыя мотапрабегі "За Беларусь" дзеля аднаго – каб паказаць па БТ карцінку ў піку тым, хто вось ужо чацвёрты месяц выходзіць на вуліцы, каб выказаць пратэст супраць беспрэцэдэнтных фальсіфікацый падчас галасавання на прэзідэнцкіх выбарах, нечуванага насілля над мірнымі грамадзянамі з боку амапаўцаў і іншых сілавікоў. Тых, хто не карыстаецца камп'ютарам альбо не мае сучаснага мабільнага тэлефона, магчыма, уражваюць аўтакалоны з соцень машын, над якімі "гордо реют" чырвона-зялёныя сцягі, а на капотах прымацаваны партрэты-маляванкі вядомага ўсім чалавека. Я гляджу на ўсю гэту дэкараваную кавалькаду як на бессэнсоўны спектакль.

Ну скажыце, хто ў нас не за Беларусь? А якая небяспека зыходзіць нашай краіне з боку суседзяў? Калі і зыходзіць, то толькі ад такіх гора-палітыкаў, як Жырыноўскі. Днямі ён пералічыў усе нашы вобласці і на ўвесь белы свет заявіў: яны павінны быць расійскімі.

Ці трэба звяртаць увагу на розных палітычных вар'ятаў? Вядома ж, не. Таму, лічу, усе вось гэтыя заангажаваныя мотапрабегі "За Беларусь" не варты, як кажуць, выедзенага яйка. Іх мэта – адцягнуць увагу грамадскасці ад сапраўды хвалюючых праблем. А яны вельмі і вельмі востра стаяць на парадку дня.

Ужо, мне здаецца, і сам Лукашэнка зразумеў: як нельга схаваць у мяху шыла, так нельга знішчыць шматлікія факты розных махінацый уладных структур на прэзідэнцкіх выбарах. Яны ж, вядома, заўважаліся і падчас іншых палітычных кампаній, але на гэты раз перасягнулі ўсялякія межы. У свядомай часткі народа лопнула цярпенне, мільёны людзей не могуць змірыцца з тым, што ўлады не палічыліся з іх волевыяўленнем, груба кажучы, наплявалі на дэмакратычныя прынцыпы, Канстытуцыю. На добры лад, даўно трэба было б прызначыць новыя выбары – і ў краіне ўсталявалася б нармальная абстаноўка.

Ніякімі прапагандысцкімі мотапрабегамі праблему не вырашыць. Адзінае выйсце – як мага хутчэй правесці нармальныя выбары. Для гэтага трэба толькі тэрмінова ўнесці ў Выбарчы кодэкс шэраг змяненняў і поўнасцю абнавіць выбарчыя камісіі. Тая ж сумна вядомая Лідзія Ярмошына не павінна і блізка стаяць.

**Вячаслаў ВІННІКАЎ, выбаршчык.**

ХОЧУ СКАЗАТЬ...

## Почему на заводах и фабриках не проводятся митинги?

Вспоминаю советские времена. Как только близилась дата очередного съезда КПСС или намечались какие-то выборы, по всей необъятной стране прокатывалась волна митингов. И проводились они не на городских площадях, а обычно прямо на заводах и фабриках, в крупных учреждениях, в институтах и университетах… Понятно, в поддержку «мудрой политики» той же Коммунистической партии во главе с членами Политбюро. Бывали митинги, касающиеся и международных вопросов. Я никогда не забуду, как в период блокады Кубы мы, рабочие, мастера, инженеры, вышли из всех цехов на заводскую площадь и после выступления каждого оратора дружно скандировали «Янки, руки прочь от Кубы!», «Остров Свободы – с Кастро!».

С тех пор прошло много-много лет. Тогда многие из нас, рабочих, даже не знали, где находится тот самый остров Свободы, как не знали, какое «светлое будущее» готовят советскому народу кремлевские вожди. А потому, помню, единодушно голосовали за блок «коммунистов и беспартийных», за верных ленинцев Никиту Сергеевича Хрущева, Леонида Ильича Брежнева и других вождей.

К чему я все это рассказываю? Мне хочется таким образом подвести читателей к мысли, что и теперь на заводах и фабриках могли бы проходить митинги под диктовку властей. Да, видимо, после того, как на Заводе колесных тягачей рабочие встретили Александра Лукашенко громкими возгласами «Уходи!», выводить людей на заводскую площадь крайне опасно. Смотришь, они тут же окажутся за проходной и колонной пойдут в центр города. А по дороге к ним присоединятся коллективы многих других заводов и фабрик. Так недалеко и до полумиллиона, а то и миллиона митингующих, способных заставить А.Лукашенко в один день уйти в отставку, о чем он сказал, кажется, на встрече с работниками птицефабрики в Дзержинском районе.

Вот почему рабочих заводов и фабрик не собирают на коллективные митинги. Все понимают: подавляющее большинство из них уже давным-давно не являются приверженцами А.Лукашенко.

**Сергей Иванович МИШУК, ветеран труда.**

ПЕРСОНА

# «…И летел он на рояле над полями, над лесами»

Если «Белорусскую музыкальную осень» не отменят в последний момент – да, теперь перед культурными мероприятиями приходится так неловко оговариваться, – то завтра в Белгосфилармонии на открытии этого фестиваля выступит прекрасный белорусский пианист **Андрей СИКОРСКИЙ**, профессор, лауреат нескольких международных конкурсов, в том числе обладатель Гран-при первого Минского конкурса пианистов 1996 года. Вместе с Государственным симфоническим оркестром под управлением маэстро Анисимова он исполнит Пятый концерт Людвига ван Бетховена, который также известен под названием «Император». Это невероятно мощное, энергетичное произведение, которое требует от солиста виртуозности и размаха. Что как раз весьма характерно для исполнительского таланта нашего уважаемого пианиста.

**– Завтра вы будете исполнять концерт Бетховена «Император» – почему вы выбрали именно его? К слову, Бетховен ведь не был монархистом, не так ли?**

– Монархистом нет, но он часто работал на элиту, это верно. Пятый концерт написан композитором во времена наполеоновских войн в Европе, когда французами была оккупирована любимая им Вена. Произведение героическое, в нем отражены надежда на победу, на «свет в конце тоннеля», по выражению критиков того времени. Кстати, опус посвящен эрцгерцогу Рудольфу Австрийскому, который был покровителем Бетховена. И, что немаловажно, его учеником.

**– Это делает эрцгерцогу честь. Но некоторые коллеги по цеху довольно язвительно шутили над вашим выбором: мол, мимо воли напрашиваются параллели. Будто готовились к громкой победе одного человека…**

– Но не названием же знаменит Пятый концерт Бетховена! Это ода борьбе. И, да, это всегда будет так или иначе перекликаться с общественными настроениями, таков уж человеческий мир. Я сам предложил это произведение маэстро Анисимову, никто «сверху» мне его не заказывал, шутки на этот счет крайне неуместны. А выбрал его прежде всего потому, что хочу отметить юбилейный год великого композитора – 250 лет со дня его рождения. Скажу больше: летом я должен был исполнять Пятый концерт в Латинской Америке. Ковид гастроли в Эквадоре отменил. Но в Минске, надеюсь, всё будет нормально.



**– А вас приглашали когда-нибудь выступить перед президентом? Он же устраивает ежегодные приемы на Рождество во Дворце Республики.**

– Да, я побывал там однажды, но не как исполнитель. Меня приглашали в гости, как и многих деятелей культуры. Помню, на приеме было очень жарко, или у меня просто поднялось давление, но я раньше времени ушел из дворца. Спускаюсь по ступенькам и слышу, как охрана говорит в микрофон: «Вышел Сикорский». Удивился, что они знают меня в лицо. Гостей тогда было человек триста, наверное.

**– Возвращаясь к завтрашнему концерту, хочу спросить еще, как вы отреагировали опять-таки на вопрос от ваших коллег, который звучал примерно так: «Неужели вы сейчас будете играть на сцене государственной филармонии?»**

– А чем филармония сейчас провинилась?

**– Не провинилась. И музыка – вне политики. Но музыканты, как члены общества, вне политики быть не могут. От людей искусства сегодняшняя жизнь, хочешь не хочешь, требует четкой гражданской позиции.**

– Я однозначно против насилия, против увольнения талантливых артистов из-за их гражданской позиции. Уволенный дирижер Большого театра Андрей Галанов – мой большой друг, очень востребованный, талантливый музыкант. Но поймите меня правильно: я профессионал и не могу отменить концерт, на который дал согласие раньше. Хотя администрация мне сказала, что примет любое мое решение.

**– Любое решение по поводу чего?**

– По поводу всего. И вот что я хочу подчеркнуть: социальные сети порой могут дать неверную картину отношений в музыкальной среде. Противостояния между нами на самом деле нет. Хотя кто-то очень хочет разделить, поссорить, конструирует подлые анонимки.

**– И что, это пройдет безнаказанно? Я про анонимку…**

– Надеюсь, что для авторов подметного письма – нет. Жизнь-то длинная.

**– Оказывается, занятия музыкой не делают людей ни благороднее, ни добрее.**

– А также занятия живописью, литературой и так далее… Всё зависит конкретно от человека.

**– Вы теперь редко бываете в Минске, так как преподаете в Китае, в университете Чженчжоу. Вернетесь туда снова или останетесь дома из-за ковида?**

– Да, с ковидом все непросто во всем мире до сих пор, хотя Китай инфекцию локализовал, второй большой волны у них, по сути, не было. И вскоре я с семьей снова еду туда на работу.

**– Как вы оказались так далеко от родины?**

– Совершенно случайно, специально на работу за границу не стремился. Администрация Чженчжоуского университета искала специалистов-иностранцев. Проректор университета приехал для этого в Минск (кстати, сейчас он стал уже ректором этого огромного учебного заведения, а до этого обучался у нас в Академии музыки). И здесь я в буквальном смысле слова попался ему на глаза – вышел покурить в коридор на перемене и столкнулся с ним.

**– Ну, не принижайте свою персону. Проректор наверняка знал ваши высокие профессиональные качества.**

– Надеюсь, что знал, ходил на концерты, когда жил и учился в Минске. Так я оказался в огромном университете Чженчжоу, где есть прекрасный факультет музыки. Трудно ли было войти в чужую среду? Конечно. Тем более что сначала мне устроили своеобразные смотрины как пианисту и преподавателю – месяца два-три. Но под Новый год я дал в университете сольный концерт, и мои позиции сразу сильно укрепились, я почувствовал, будто передо мной подняли занавес.

**– Китайский язык, подозреваю, вы все же не выучили. И как общаетесь с преподавателями, когда проходят, например, заседания кафедры?**

– А там нет заседаний! Понимаете, я и другие иностранные спецы – мы работаем по отдельной программе, с китайскими педагогами она не пересекается. Мы готовим учащихся, которые в будущем поедут продолжать образование в Академии музыки в Минске, так как между нашими учебными заведениями подписано соглашение о сотрудничестве. Кстати, ребята в результате получают два диплома – китайский и белорусский.

**– И куда потом с двумя образованиями они стремятся уехать – обратно в Китай или в Европу, Америку?**

– Чтобы повально в Европу, то нет. Они и дома неплохо себя чувствуют, прилично зарабатывают. Китай большой, там есть работа, организовывается много новых оркестров.

**– Китайцы очень хорошие музыканты – так можно утверждать?**

– Встречаются и очень хорошие. Собственно, как и у всех. Но что можно сказать точно: они очень трудолюбивые, целеустремленные, это их отличительная национальная черта. Более организованные, чем мы.

**– А как вы относитесь к такому китайскому пианисту, как Ланг Ланг и его феноменальной известности в мире?**

– Лично мне его манера не близка: шоу, показуха. Хотя профессионально это безупречно. Однако в академической музыке есть ведь традиции. Но это мое мнение.

**– Как вы и ваша семья устроены в Китае с бытовой точки зрения?**

– Очень хорошо. Квартиру, коммуналку, интернет нам оплачивает работодатель. И еще немало услуг из социального пакета, например, перелет раз в год домой и обратно. Не говоря уже о зарплате, которая намного выше, чем у педагогов в Беларуси. Китай сильно вкладывается в образование и культуру – в свое будущее.

**– Намного выше – это во сколько раз?**

– Ммм… Думаю, раз в десять.

**– Вы как-то рассказывали, что наряду с ректором в университете есть идеолог, и статус его такой же высокий, как у руководителя. Вас, иностранцев, идеологические мероприятия как-то касаются?**

– Меня нет, я на собрания не хожу. Но китайцы с идеологией дружат, они в свои идеалы верят. Нельзя сказать, что идеология в стране насаждается под давлением, путем накручивания мозгов. Современное китайское общество не какое-то стадо, нет. Не говоря уже о том, как интенсивно развиваются их технологии. Вообще, рассказать о Китае трудно, его размах лучше увидеть.

**– У вас как у профессора есть в учебном плане обязательные сольные концерты – так сказать, для подтверждения собственного статуса?**

– Нет, обязательных концертов нет, но на просьбы ректората выступить на каких-то общих университетских праздниках я, естественно, всегда откликаюсь.

**– Приносите ли вы жене цветы, которые вам дарят на концерте?**

– Я маме все отдаю, когда выступаю в Минске. Она практически всегда присутствует в зале. А если на гастролях – девушкам из оркестра.

**– У вас бывают концерты, когда вы забываете про зал и играете как будто только для себя?**

– Это случается… Моментами… Но чтобы совсем улететь в нирвану при полном зале – конечно, нет. Можно ведь вовремя и не вернуться, а?

**Елена МОЛОЧКО.**

